# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ Б.Г.К.Т.

№ 51 (564) ГОД XI БЕЛАСТОК, 19 СНЕЖНЯ 1966 г. ЦАНА 60 ГР.


У НУМАРЫ



## З ЖЫЦЦЯ БГКТ

### СЛОВА АБ ГАРАДСКІМ АДДЗЕЛЕ Ў БЕЛАСТОКУ

Праца гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку даволі спецыфічная. У горадзе няма гурткоў. Уся культурна-асветная праца арганізуецца і праводзіцца ў памяшканні ГП, у якім мае сваю сядзібу аддзел. Жыхары Беластока ведаюць памяшканне на Варшаўскай 11. Сюды прыходзяць яны на савецкія фільмы, якія садзейнічаюць знаёмству з жыццём савецкіх людзей, знаёмству з савецкай культурай, а таксама прычыняюцца да прывівання пачуццяў любві і дружбы да савецкіх народаў.

У чытальны зал прыходзяць людзі пачытаць газеты і часопісы, паглядзець перадачы тэлебачання, паіграць у шахматы і т.д. Любіцелі белетрыстыкі могуць з бібліятэкі аддзела атрымоўваць кніжкі.

Многа карыснага робіць аддзел для дзяцей. Пад кіраўніцтвам Чэслава Дзюбінскага школьнікі, у асноўным дзеці актывістаў БГКТ, вучацца іграць на акардэонах.

Для моладзі адной з найважнейшых забаў з'яўляюцца танцы. I ў аддзеле заўсёды цікава і культурна праходзяць танцавальныя вечарыны.

Ужо да традыцыі аддзела належыць арганізаванне навагодніх балаў і навагодніх ёлак для дзяцей. Да традыцыі належыць і тое, што аддзел заўсёды арганізуе ўрачыстыя пасяджэнні (акадэміі) з нагоды дзяржаўных свят і іншых вядомых гадавін. Пасля гэтых акадэмій адбываюцца выступленні навучэнцаў Чэслава Дзюбінскага, выступленне салістаў, а таксама самадзейнікаў з рускага таварыства, з якім аддзел супрацоўнічае.

Да новых дасягненняў аддзела трэба залічыць тое, што ад некалькіх месяцаў пачаў працаваць хор пад кіраўніцтвам Міхася Ануфрыева. I гэты хор ужо паспеў даць два канцэрты. Новым з'яўляецца таксама тое, што ў клубе ўведзена чорная кава, а таксама закуплены більярд. Новым з'яўляецца таксама і тое, што рэгулярна праводзяцца тут усякага роду спатканні. Да іх адносяцца аўтарскія сустрэчы з членамі літаратурнага аб'яднання Белавежа, даклады лектараў КМ ПАРП.

Гарадскі аддзел першым адклікнуўся на пастулаты друкаваныя ў «Ніве» адносна прывівання любві да роднага слова. Ён намагаецца зараз арганізаваць тэатральны гурток, намагаецца ўзняць беларускае слова і паказаць яго прыгажосць на сцэне, намагаецца пашырыць падпіску «Нівы» ў горадзе, і з гэтай мэтай плануе пасля Новага года аб'явіць конкурс.

Ужо гэтыя прыведзеныя факты працы аддзела гавораць аб тым, што Беластоцкі аддзел у жыцці БГКТ адыгрывае аграмаднае значэнне, што ён з'яўляецца ў пэўным сэнсе люстрам дзейнасці Галоўнага праўлення, што паводле яго працы многія мяркуюць аб працы ГП. Дзейнасць БГКТ разлічана ў асноўным на грамадскую працу актывістаў. А дзе як дзе, але ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку добры ахвярны актыў, з якім можна многа карыснага зрабіць. Актывісты аддзела заслугоўваюць на асобнае падкрэсленне. Да гэтых людзей залічаюцца перш за ўсё: Люба Кулыгіна, Уладзімір Куршэль, Кіра Радзіцкая, Уладзімір Навіцкі, Яўген Ражкевіч, Мікола Яроцкі, Зоя Ясінская, Сцяпан Сілівончук, Анна Амброжэй, Віктар Лаўрэшук і іншыя.

Старшынёю аддзела з'яўляецца Кастусь Масальскі. Яго адданасць грамадскай працы і ўменне з'ядноўваць актыў з'яўляецца той рысай, якая дазваляе

(Працяг на стар. 5)

Да 40-ГОДДЗЯ СТАРАБЕРАЗОЎСКІХ ПАДЗЕЙ



З дакладам выступіў Сакратар ГП БГКТ тав. Ул. Юзвюк.

# ЖЫВЕ ПАМЯЦЬ АБ ГРАМАДЗЕ

Як вынікае з дакументаў, тамтая нядзеля выпала 5 снежня 1926 года. Старэйшыя жыхары Старога Беразова і навакольных вёсак запамяталі, што тады ляжаў ужо свежы беленькі снег, на якім асабліва ярка адзначалася людская кроў — кроў сяброў Беларускай сялянска-работніцкай грамады, дэлегатаў на павятовы з'езд у Старым Беразове.

На старонках «Нівы» мы не раз ужо вярталіся да гэтых падзей, і таму няма патрэбы яшчэ раз падрабязна апісваць стараберазоўскай трагедыі.

У гэтым годзе першая снежаньская нядзеля выпала на 4 дзень месяца. 40 год пазней сабраліся ў школе суседняй вёскі Махнатае старыя сяляне і моладзь, дзяўчаты і пажылыя жанчыны з навакольных вёсак, прыехалі прадстаўнікі Павятовага камітэта ПАРП і Павятовага камітэта Аб'яднанага стронніцтва людовага. Ставіліся кіраўнікі мясцовых партыйных і адміністрацыйных пляцовак. Прыбылі прадстаўнікі Галоўнага праўлення БГКТ. Сустрэліся ў вясковай школе, каб успомніць адважныя змаганні сяброў Грамады. Сярод іх быў адзін непасрэдны ўдзельнік стараберазоўскага павятовага з'езда Грамады — Рыгор Янкоўскі.

З дакладам аб дзейнасці Грамады ў Бельскім павеце і аб паліцэйскай расправе над дэлегатамі стараберазоўскага грамадаўскага з'езда выступіў сакратар Галоўнага праўлення БГКТ, тав. Уладзімір Юзвюк.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства высока цэніць прагрэсіўныя традыцыі, якія аставіла Грамада. Таму БГКТ было галоўным ініцыятарам увекавечання Стараберазоўскай «крывавай нядзелі» памятнай дошкай. Пакуль што астанецца яна ў Махнатаўскай школе, але на вясну, калі пагода дазволіць, каб правесці адпаведныя працы, памятная дошка знойдзецца дакладна на тым месцы, дзе ў Старым Беразове 40 год таму назад адбываўся павятовы грамадаўскі з'езд.

Вечарам сабраўшыеся ў Махнатаўскай школе паглядзелі мастацкі беларускі фільм «Чырвонае лісце», абаснаваны на аўтэнтычных падзеях, якія ў міжваенны перыяд адбываліся ў Заходняй Беларусі. Фільм вельмі спадабаўся. Многія сярод старэйшых сялян адразу дадумаліся, што рэч ідзе аб заслужаным дзеячу КПЗБ Сяргею Прытыцкім і аб здрадніку Стрэльчуку.

Шкада, што гэты мітынг не мог адбыцца ў самым Старым Беразове. Няма аднак там ні школы, ні святліцы, і таму не знайшлося дастаткова прасторнай залы, якая магла б змясціць усіх удзельнікаў мітынгу.

Тэкст і фота **В. Рудчык**



Школьная зала запоўнілася да апошняга месца ўдзельнікамі мітынгу, якія з вялікім зацікаўленнем слухалі і даклада Ул. Юзвюка, і ўспамінаў Рыгора Янкоўскага, і вершаў Віктара Шведа, якія ён сам чытаў.

## Вялікі Конкурс з узнагародамі

**Дакладна аб правілах і карысцях конкурсу наш чытач пазнаёміцца на старонцы 6. Тут хочам пару слоў аб самой ідэі.**

**Гэта першы ў такім маштабе і з такім размахам арганізаваны конкурс на чытанне беларускай літаратуры. Прымае ў ім удзел 7 арганізацый і ўстаноў. Многія, верым, далучацца да нас у час самога конкурсу, гэта значыць, ад пачатку новага года да канца кастрычніка 1967 года.**

**Конкурс лёгкі. Хочам, каб удзел у ім прыняло як найбольш удзельнікаў. Толькі тры творы трэба прачытаць, каб стацца ўдзельнікам і магчыма выйграць не благую ўзнагароду.**

**Конкурс разлічаны ў асноўным на дарослага чытача ўключна з ліцэістамі.**

**Сакратарыят конкурсу задбаў, каб пра яго ведала Міністэрства Культуры і Мастацтва, галоўныя праўленні нацыянальных таварыстваў у Польшчы. Наш конкурс з'яўляецца ў пэўным сэнсе паказовым. Вяжам яго сцісла з 50 гадавінай Вялікага Кастрычніка, напярэдадні якога адбудзецца ў Беластоку ўрачыстае падсумаванне.**

**Усе тады да ўдзелу ў конкурсе!**

**Цікавыя выказванні з конкурсных купонаў ці з асобных картак будзем друкаваць у «Ніве».**

## У справе праграмаў беларускага тэлебачання

**Многія нашы чытачы звяртаюцца да нас з пытаннем, чаму мы не друкуем праграмаў беларускага тэлебачання. Гэтае пытанне было пастаўлена нават на апошнім пленуме ГП БГКТ. Павінны тады мы перад чытачамі вытлумачыцца. Як толькі з'явілася магчымасць шырэй прыймаць на Беласточчыне беларускае тэлебачанне (павелічэнне моцы гродзенскага тэлецэнтра), мы звярнуліся ў рэдакцыю «Беларускага тэлебачання» з просьбай дасылаць нам сваю праграму так, каб мы маглі яе ў час надрукаваць. На жаль, такой магчымасці няма. «Беларускае тэлебачанне» па тэхнічных прычынах не можа даслаць яе нам раней, чым яна дойдзе да нас у газетным выглядзе. А гэта значыць, што спозніцца яна на 4 дні. Каб хоць у нейкай меры задаволіць патрабаванні нашых чытачоў, мы вырашылі змяшчаць цікавейшыя перадачы беларускага тэлебачання на пятніцу, суботу і нядзелю. Такую магчымасць маем. Калі будзе магчымасць змясціць тыднёвую праграму, неадкладна скарыстаем з яе. I так, ад сёння, апрача тыднёвай праграмы польскай тэлевізіі, будзем змяшчаць цікавейшыя перадачы беларускай тэлевізіі (на пятніцу, суботу і нядзелю).**

## Нарада карэспандэнтаў „Нівы"

**4-га снежня г.г. адбылася ў «Ніве» рабочая нарада перадавых карэспандэнтаў. На ёй былі абмеркаваны дасягненні і недахопы карэспандэнцкіх матэрыялаў, якія наплываюць у наш часопіс. У час дыскусіі ўдзельнікі нарады сцвярджалі, што ўсе крытычныя іх публікацыі прычыніліся да ўладжання тых ці іншых спраў, аб якіх была гутарка ў інфармацыях. Нарада закончылася супольным абедам, у час якога з рук Галоўнага Рэдактара «Нівы» Г. Валкавыцкага перадавыя карэспандэнты атрымалі дыпломы і рэчавыя ўзнагароды.**

**(мх)**

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Вестні

## СВЕТ

### ПРЫКЛАД УСЁЙ ЕЎРОПЕ

Афіцыяльны візіт **А. Касыгіна ў Францыю** закончыўся. Сусветная прэса каменціруе зараз супольнае савецка-французскае камюніке. Як прадбачвалася, візіт прычыніўся да ўмацавання дружбы між савецкім і французскім народамі, для справы міру ў Еўропе і ва ўсім свеце. Вось асноўныя справы сумеснага камюніке:

■ СССР і Францыя выказваюцца за развіццём супрацоўніцтва ва ўсіх галінах і паміж усімі еўрапейскімі дзяржавамі.

■ Наглядным прыкладам супрацоўніцтва павінны быць суадносіны паміж СССР і Францыяй.

■ Прадыскутавана справу склікання агульнаеўрапейскай канферэнцыі.

■ Падкрэслена, што разыходзіцца не толькі аб нераспаўсюджванне тэрмаядзернай зброі, але каб дзяржавы, якія распараджаюць гэтай зброяй, разважылі сродкі, якія маглі б запэўніць сапраўднае раззбраенне.

■ Абедзве дзяржавы выказалі спачуванне па поваду сітуацыі ў Паўднёва-Усходняй Азіі, якая з'яўляецца **вынікам чужой інгерэнцыі.**

■ Суадносіны паміж Савецкім Саюзам і Францыяй развіваюцца вельмі хутка. Перад усім у такіх галінах як каляровай тэлевізіі, мірнага выкарыстання атамнай энергіі і касмічных доследаў. У будучыні круг супрацоўніцтва пашырыцца.

### АБ В'ЕТНАМЕ

■ Прадстаўнік Савецкага Саюза Кузняцоў сустрэўся з У Танам. Разглядалі яны в'етнамскую вайну і звязаную з гэтым пагрозу міру. Трэба прыпомніць, што адной з прычын, для якой У Тан зракаўся сваёй функцыі, была в'етнамская вайна. Астаўся ён далей генеральным сакратаром таму, сцвярджаюць некаторыя, што паўстала пэўная магчымасць мірнага ўрэгулявання в'етнамскай праблемы.

■ Папа Рымскі Павел VI звярнуўся з заклікам, каб перапынак у в'етнамскай вайне, запланаваны на каляды па ініцыятыве в'етнамскіх патрыётаў, прадоўжыць і каб стаўся ён падставай да мірных перагавораў.

■ Інакш гэтую справу бачыць Раск. Сказаў ён, што ў ЗША не маюць намеру ганараваць перамір'я на далейшую мэту. Наадварот, ЗША імкнуцца расшырыць вайну. Прэзідэнт Джонсан звярнуўся да кангрэсу, каб той прызначыў дадаткова 10 мільярдаў долараў да канца чэрвеня будучага года на вайну ў В'етнаме. Злучаныя Штаты звярнуліся да сваіх саюзнікаў, каб аказвалі яны яшчэ большую дапамогу марыянетцы Кі.

### РУБІ МАЕ РАКА

Злачынца, які забіў Освальда, Рубі мае рака. Усе доследы пацвердзілі дыягноз. Далейшае лячэнне будзе залежыць ад доследаў, мэтай якіх ёсць акрэсленне месца пухліны.

### АТАМНАЯ ЛОДКА Ў ІТАЛІІ

У бліжэйшым часе Італія пабудуе **першую атамную падводную лодку.** Амаль усе элементы будуць выпрадукаваны ў Італіі.

А. К.

## БССР

### КІРМАШ

У Палацы культуры Мінскага камвольнага камбіната адбыўся першы ў Беларусі, і адзін з найбольшых у Савецкім Саюзе, гандлёва-прамысловы кірмаш. Кірмаш наведалі кіраўнікі вярхоўных улад Беларусі.
З'ехаліся сюды прамысловыя дзеячы з многіх саюзных рэспублік.

### ОРДЭН

За гераізм у партызанскай барацьбе ў час акупацыі сталіца Беларусі, горад Мінск, узнагароджаны **ордэнам Леніна.** Беларускія газеты друкуюць гэту вестку вялікімі літарамі на першых старонках. Публікуюцца шматлікія матэрыялы аб гераічнай барацьбе мінчан у часы апошняй вайны.
Гарады-героі: Масква, Ленінград, Брэст шлюць віншаванні Мінску.

### 23-Я

Дванаццаць дзён знаходзілася ў Беларусі дэлегацыя чэхаславацка-савецкай дружбы. Узначальваў дэлегацыю славацкі падпалкоўнік Ондрэй Налепка, брат слаўнага патрыёта Славакіі, Яна Налепкі, які загінуў у вайну. Ян Налепка — Герой Савецкага Саюза.
Госці ўдзельнічалі ў мерапрыемствах звязаных з 23-яй гадавінай Дагавору аб дружбе, узаемадапамозе і пасляваенным супрацоўніцтве паміж Савецкім Саюзам і Чэхаславакіяй.

### ДАГАМЕЙСКІ

Беларускую сталіцу наведаў нацыянальны балет далёкай афрыканскай краіны Дагамей.

### З РУМЫНІІ

Аматары музыкі цёпла сустрэлі канцэрты румынскага дырыжора Георга Вінілэ. Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР выканаў пад яго кіраўніцтвам Сімфонію № 2 Бетховена і Румынскую рапсодыю № 2 Д. Энеску.
У Румыніі выступаў з канцэртамі беларускі дырыжор В. Катаеў, заслужаны артыст БССР.

### ЛІТАРАТУРНАЕ

Гродна з'яўляецца горадам, які мае сваю літаратуру і вядомых пісьменнікаў, як Васіль Быкаў і Аляксей Карпюк. Адбываюцца сустрэчы насельніцтва і з маладымі гродзенскімі паэтамі — Вольгай Іпатавай, Аляксеем Дземідовічам, Юрыем Лаўрэнцевым.

### ВЫСТАЎКІ

У Мінску адбыліся тры новыя выстаўкі. У Дзяржаўным мастацкім музеі свае працы паказалі мастакі тэатра, кіно і тэлевізіі, і беларускія акварэлісты. У мінскім салон-магазіне адбылася персанальная выстаўка віцебскага жывапісца У. Кухарава.

### ПАГОДА

На пачатку гэтага месяца на Беларусі была імглістая і пахмурная пагода.

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ВЫСТУПЛЕННЕ УЛАДЗІСЛАВА ГАМУЛКІ НА III З'ЕЗДЗЕ СЕЛЬГАСГУРТКОЎ

У днях 8—9.XII абрадаваў у Варшаве III з'езд дэлегатаў сельскагаспадарчых гурткоў. У абрадах прынялі ўдзел між іншым: Уладзіслаў Гамулка, Эдвард Охаб, Юзэф Цыранкевіч і шмат іншых прадстаўнікоў партыйных і дзяржаўных улад. З прамоваю на з'ездзе выступіў Уладзіслаў Гамулка, які перааналізаваў датагачасныя дасягненні нашай гаспадаркі і ўказаў на далейшыя яе перспектывы, а таксама на некаторыя новыя элементы палітыкі партыі ў адносінах да сельскай гаспадаркі.

Уладзіслаў Гамулка напомніў, што ў мінулае дзесяцігоддзе сярэдні гадавы тэмп узросту валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі раўняўся звыш 3,3 працэнта. Дзякуючы гэтаму павысіўся ўзровень спажыцця сельскагаспадарчых прадуктаў на галаву кожнага жыхара краіны, нягледзячы на тое, што лік насельніцтва за гэты перыяд пабольшыўся на 26,4 працэнта (прыбыло 6,6 мільёна асоб). Добрыя вынікі нашая сельская гаспадарка асягае дзякуючы добрай працы мільёнаў нашых гаспадароў, а таксама дзякуючы адпаведнай палітыцы дзяржавы. Так, напрыклад, на працягу мінулых гадоў у 2 разы ўзрасло забеспячэнне вёскі ў штучныя ўгнаенні, у 2,5 разы ўзрасла колькасць трактараў, у 2,5 разы ўзрасла колькасць электрыфікаваных гаспадарак. У далейшай частцы свайго выступлення Уладзіслаў Гамулка перааналізаваў перспектывы прадукцыі перад усім збожжавых культур. Запатрабаванне на збожжа ў наступных гадах будзе пастаянна ўзрастаць. Для забеспячэння гэтага запатрабавання і ліквідацыі імпарту збожжа да 1970 года неабходным будзе павысіць ураджайнасць з гектара 4 збожжавых культур да 21 цэнтнера з гектара, каб заахвоціць гаспадароў да шырэйшага развіцця прадукцыі збожжавых культур прадбачваецца некаторыя прывілеі для гаспадароў, якія будуць кантрактаваць збожжавыя пасевы. Перад усім будуць яны маглі атрымаць па ніжэйшых цэнах штучныя ўгнаенні, а таксама атрымаць пэўныя палёгкі ў падатках. Уладзіслаў Гамулка адзначыў, што такая развязка дазволіць атрымаць больш штучных угнаенняў тым ваяводствам, якія паводле датагачаснай палітыкі атрымлівалі іх вельмі мала (як, напрыклад, Беластоцкае ваяводства).

Гаворачы аб патрэбе выкарыстання ўсіх рэзерваў, Уладзіслаў Гамулка заявіў:

«У сувязі з тым думаем разгледзіць магчымасць камасацыі грунтаў у некаторых раёнах краіны, а асабліва там, дзе цераспалосіца перашкаджае большым гаспадаркам. Такім чынам палепшым сітуацыю гаспадарак, якія нават пры добрай зямлі і не малых абшарах маюць — з прычыны цераспалосіцы — вялікія цяжкасці ў гаспадараванні, а таксама створым магчымасці выкарыстання зямлі, якая не мае пастаяннага гаспадара, а павінна быць адпаведна загаспадараванай».

(Ул. П.)

## ВАЯВОДСТВА

### ШТУЧНЫЯ ЎГНАЕННІ

На сельгасгурткоўскім з'ездзе Уладзіслаў Гамулка сказаў, што слабейшыя эканамічна ваяводствы, а ў тым ліку і Беласточчына, будуць атрымоўваць столькі штучных угнаенняў, сколькі ім спатрэбіцца. Якое тады наглядаецца запатрабаванне на мінеральны «попел» у нашым ваяводстве? Лікі не пацяшаюць. Вось на 1966/67 гаспадарчы год Беласточчына атрымала 105 тысяч тон мінеральных угнаенняў, а гандлёвыя ўстановы прадалі дагэтуль ледзь 60 тысяч тон. Можна яшчэ спадзявацца, што сяляне будуць купляць на весну, але статыстыка даказвае, што ў мінулым годзе прадалі мы за гэты ж перыяд яшчэ менш штучных угнаенняў. Асабліва слабое зацікаўленне гэтай справай для раслін наглядаецца ў Беластоцкім і Дуброўскім паветах.
Аграномаў і прадстаўнікоў ГС-аў чакае тады вялікая работа, каб растлумачыць хлебаробам неабходнасць і высокую рэнтабельнасць прымянення павышаных доз штучных угнаенняў.

### 10-ЦІГОДДЗЕ САіВ

САіВ — гэта Аб'яднанне атэістаў і вольнадумных, арганізацыі, якая заснавалася ў 1956 годзе і згуртоўвае перш за ўсё інтэлігенцыю, якая не прызнае рэлігійнай ідэалогіі і сваім заданнем лічыць пашырыць свецкую культуру.
10 снежня адбыўся ў Беластоку 4-ы ваяводскі з'езд гэтай арганізацыі. Дэлегаты абмеркавалі вынікі сваёй дзейнасці. выбралі новае Ваяводскае праўленне і прынялі пастановы аб напрамках далейшай працы. Сярод членаў Прэзідыума Ваяводскага праўлення САіВ ёсць і старшыня Прэзідыума ГП БГКТ, суддзя Вінцук Склубоўскі.

### ВУЧНЁЎСКАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

Вучні пачатковай школы № 23 імя Людвіка Заменгофа ў Беластоку праявілі братэрскую салідарнасць з вучнямі В'етнама. Па ініцыятыве гарцэраў гэтай школы вучні сабралі звыш 1100 алавікоў, каля 680 сшыткаў і шмат другіх школьных матэрыялаў і прыладаў, ды прызначылі іх на навагоднія падарункі сваім сябрам з В'етнама. Падчас мітынгу, які з гэтай нагоды адбыўся ў школе, вучні звярнуліся з урачыстым заклікам да ўсіх школ у нашай краіне, каб пайшлі іх следам і збіралі навагоднія падарункі в'етнамскім вучням. Прысутны на мітынгу першы сакратар амбасады ДРВ у Польшчы высока ацаніў вучнёўскі пачын беластоцкай школы і ад імя в'етнамскіх вучняў шчыра падзякаваў за падарункі. У Беласток ужо паступаюць паведамленні аб тым, што ініцыятыва гарцэраў школы імя Людвіка Заменгофа сустрэлася з шырокім водклікам у краіне.

### СВЯТОЧНЫЯ ЁЛКІ

Набліжаюцца каляды, а разам з імі вялікае запатрабаванне на навагоднія ёлкі. Каб не вынішчыць лесу, лясная адміністрацыя сістэматычна вядзе пасадкі ёлак, якія пазней прызначаюцца на ўпрыгожванне святочнага нараду. На Беласточчыне плантацыі ёлак займаюць ужо плошчу ў 100 гектараў. (вр)




NIEDZIELA 18.XII.

10.00 Dla dzieci: „Gwiazdki śniegu" — widowisko (Budapeszt); 10.45 Dla młodych widzów: Kino Przygoda — „Dzwonię, otwórzcie drzwi" — film fab. radz; 12.00 Wiad. dz. TV; 12.10 Gra Polska Kapela pod dyr. F. Dzierżanowskiego z udziałem solistów, 12.45 Dla dzieci: W. Żukrowski „Porwanie w Tiutiurlistanie"; 13.35 „Bakaniarze" — rep. film; 13.50 „Czarownice" — film; 14.20 PKF; 14.35 „Przemiany" — Mag. Redakcji Wiejskiej; 15.00 „Wielka gra"; 16.00 „Portrety" — „Igor Strawiński"; 16.45 Teatr Niedzielny" A. Barański „Forteca"; 17.30 „Plebiscyt Archimedesa"; 19.00 „Nic świętego". Felieton literacki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 Recital Emila Dimitrowa; 20.30 „Śmiech w raju" — film fab. ang.; 22.00 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK 19.XII.

16.45 Wiad. dz.; 16.50 Dla dzieci: „Zaczarowany ołówek" — film; 17.00 Dla młodych widzów: „Rozkosze łamania głowy"; 17.20 „Klakson"; 17.35 „Gorąca linia"; 18.15 Sprawozdanie z rewanżowego spotkania finałowego o Puchar Europy w boksie ZSRR — Polska (Ryga); 19.30 Dobranoc; 19.40 Dz. TV; 20.10 Teatr TV: Sofokles „Antygona"; 21.10 „Eureka"; 21.40 Dz. TV.

WTOREK 20.XII.

10.00 „Szerszeń" — film fab. radz; 15.25 „Przysposobienie rolnicze"; 16.00 Politechnika TV; 17.00 Wiad. dz.; 17.05 Dla młodych widzów: „Zrób to sam"; 17.20 Dla młodych widzów: „Gdzie cytryna dojrzewa..." — rep. z palmiarni; 17.45 „Bar pod Kaczuszką" — kabaret reklamowy; 18.15 Francuskie melodie rozrywkowe — film; 18.35 „Próby" — miesięcznik konsumenta; 19.00 TV Kurier Warszawski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Szadłów" — rep.; 20.30 „Szerszeń" — film fab. radz.; 22.05 „Na wielkim ekranie"; 22.35 Dz. TV; 22.55 Politechnika TV.

ŚRODA 21.XII.

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Odkrycie Pascala"; 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Plan i budżet Państwa"; 11.30 „Skradziony obraz" — film („Baron"); 16.25 „Przypominamy, radzimy"; 16.35 PKF; 16.45 „Turku w zimie" — film fiński; 16.55 Wiad. dz.; 17.00 Dla młodych widzów: „Zwykłe sposoby — niezwykłe sekrety"; 17.25 Dla młodych widzów: „Pisarska przygoda Mariana Brandysa"; 17.40 „Nie tylko dla pań" — mag.; 18.15 Magazyn Medyczny; 18.45 „Dobry wieczór, jak minął dzień"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Sonata di camera" — film tv CSRS; 20.15 „Skradziony obraz" — film („Baron"); 21.05 „Światowid"; 21.35 Scena Muzyczna TV: „Nefru" — opera komiczna; 22.15 Dz. TV.

CZWARTEK, 22.XII.

15.55 39 lekcja jęz. franc.; 16.20 Kurs Rolniczy: „Produkcja pasz w gospodarstwie"; 16.55 Wiad. dz.; 17.00 Dla dzieci: Kino Ptyś; 17.15 Dla młodych widzów: „Sporty zimowe"; 17.45 „Z drugiej strony szklanego ekranu"; 18.00 „Na półkach księgarskich"; 18.15 „Na Tetmajerową nutę" (muzyka i piosenki góralskie); 18.50 „Kiedy trzeba podjąć decyzję"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Polska w świecie" — film; 20.20 Teatr Sensacji: „Człowiek, który stracił pamięć" — A. Zbycha („Stawka większa niż życie"). odc. III; 21.20 „Refleksje"; 21.50 Dz. TV; 22.10 39 lekcja jęz. franc.

PIĄTEK, 23.XII.

16.55 Wiad. dz.; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla dzieci: „Śledztwo" — film („Bella i Sebastian"); 17.45 Wszechnica TV; 18.15 „Czwarta zmiana"; 18.55 „Wielokropek"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 „Cyrulik Sewilski" — opera komiczna; w przerwie — 21.50 „10 minut recenzji"; 22.20 Dz. TV.

SOBOTA, 24.XII.

10.00 Dla młodych widzów „Zbuntowana piętnastolatka" — film fab. USA; 14.55 Dla dzieci: „Opowieść o starym tramwaju" — film fab. CSRS; 16.40 Wiad. dz.; 16.45 Krakowska Kronika Dziewcząt i Chłopców; 17.00 Dla młodych widzów: Teatr Jednego Aktora — W. Saroyan „Cudowna płyta"; 17.20 „Na półkach księgarskich"; 17.30 „Melina Mercouri w Grecji" — film; 18.15 „Gawędy wilków morskich"; 18.30 „Po szóstej"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 Wigilijny koncert muzyki i poezji; 20.35 Dz. TV; 21.00 „Od Ostrowi świeci gwiazda" E. Brylla; 21.55 „Romanzo d'amore" — film fab. wł.; 23.30 „Studio uno" — włoski film. progr. rozrywkowy.




16.XII. ПЯТНІЦА
15.20 — для малых. Мультыплікацыйны фільм; 15.40 — «Подзвігі нашых землякоў»; 16.35 — «Нашчадак Чынгіз-хана» — фільм; 19.00 — «Яны і мы» — спектакль.

17.XII. СУБОТА
15.45 — «Беларускія гумарэскі» — канцэрт; 17.30 — «На агеньчык»; 19.15 — Л. Кручкоўскі «Адплата» — спектакль з Масквы.

18.XII. НЯДЗЕЛЯ
13.00 — «Добры дзень, дзеці!» — фільм; 15.00 — кубак Еўропы па боксу. СССР — Польшча; 20.00 — Аперацыя «Ы» і іншыя прыгоды Шурыка» — фільм.

## З жыцця Педагагічнага ліцэя ў Бельску

**Выдатна працавалі вучні Педагагічнага ліцэя ў Бельску пры ўборцы караняплодаў. Сваё абавязацельства 1000 цэнтнераў на Тысячагоддзе Дзяржавы амаль падвоілі, збіраючы 1956 цэнтнераў. На ўвагу заслугоўваюць усе вучні. Узяць хаця б для прыкладу V «б», вучні якога выкапалі і загрузілі 25.450 кг. караняплодаў, а кл. IV «б» — 23.700 кг. На здымку: Тут неўспяваючых не было. Вучаніцы II класа «б» Бельскага педліцэя ў ПГР — Вандалін.**



# КЛУБ ліцэіста

## Успаміны

Пустыя палі, голыя дрэвы. Недзе чуваць шум ручая... Нейк пуста і сумна. Яшчэ некалькі месяцаў таму было тут вясёла і ўтульна, і Лідка была шчаслівай. А цяпер? Ці ж можна назваць шчасцем паварот у школу, жыццё ў інтэрнаце і тугу за ім? Чаму хвіліны шчасця трывалі так коратка? Лідка падыходзіць да знаёмага дуба. Тут паваротвае дарожка да станцыі. Усё знаёмыя мясціны. Іх можна чытаць, як жывы летапіс. Лідцы прыпамінаецца перажытае...

У канцы ліпеня Мірэк прыехаў з горада ў яе вёску. Лідка памятае тую нядзелю, калі дзяўчаты стаялі на мосце, а з вясковымі хлопцамі падышоў Ён. — Які прыгожы, як апрануты, а якія доўгія валасы, — шапталі дзяўчаты. Лідцы адразу ён прыпаў да сэрца. Быў нейкі іншы чым вясковыя хлопцы. Яна не ведала, якую знайсці прычыну, каб з Ім пагаварыць. І вось нечакана лёс да яе ўсміхнуўся.

Хлопцы сарганізавалі вечарыну. Мірэк цэлы вечар танцаваў толькі з ёю і адвёў дамоў. Потым спатыкаліся часта. Мірэк быў ёй добрым, вясёлым, хоць часта за многа рашучым сябрам. Лідцы штораз ён больш падабаўся. Кожны дзень з нецярплівасцю чакала вечара, каб хутчэй выйсці да Мірка. Не ведала, амаль дзіцячае сэрца было напоўнена нейкімі новымі пачуццямі, якіх Лідка дагэтуль не ведала. У яе ўяўленні было тое, што называла каханнем. Мірэк часта гаварыў, што яе кахае, што яна цудоўная дзяўчына. Ён гаварыў, што вучыцца апошні год у тэхнікуме, а калі скончыць навуку, адразу пажэняцца. Лідка ведала, што ўсё не так гладка пойдзе, аднак верыла. Яна ж кахала Мірка. Вечарам часта хадзілі над рэчку, хадзілі па роснай траве, хадзілі ў лес. Вакол туман, цішыня, толькі ўдалечыні свецяць сярэбраныя зоркі.

— Як тут прыгожа, як ціха, паслухай як рахочуць жабы, — гаварыў Мірэк. Калі адыходзілі далёка ад вёскі, Лідка прасіла вярнуцца. Ітак хутка прайшоў цэлы месяц. Надыходзілі хвіліны расстання. Была субота. Мірэк ад'язджаў, і Лідка адводзіла яго на паўстанак. Затрымаліся пад дубам на скрыжаванні. Мірэк туліў яе і абяцаў, што будзе пісаць пісьмы. Лідка асталася адна. Сэрца балела за любым. Канчаліся канікулы і трэба было збірацца ў школу. Ісці ў школу? А ці яна зможа так вучыцца як раней?

Ужо мінула тры месяцы, а пісьма не было. Ці ён забыў, ці можа ўжо не кахае? Гэтыя сумненні не давалі спакою дзяўчыне. Мінула лета, мінулі прыгожыя дні, а ці міне каханне? Лідка рашыла, што больш нікога не пакахае. Цэнь няўданага першага кахання пакіне назаўсёды след у Лідчыным сэрцы. Але ўсе перажыванні належаць да мінулага. Асталіся толькі ўспаміны і боль сэрца.

Лідка ідзе сваімі даўнімі слядамі і чытае з іх успаміны. З дрэў ападаюць лісткі. Падаюць на плечы, пад ногі, кружацца ў паветры. Старым дубам шапоча асенні вецер. Аднак у яго шуме не чуваць гэтых летніх акордаў. Застыла вёска ў сваёй цішыні. Вецер калоціць дрэвы, бесцырымоннальна шоргае галінамі. Усе спачуваюць Лідцы. Аднак перажытыя хвіліны не вернуцца. Не! Не!

«С»

Беларускі ліцэй

## Сябры ліцэісты

У нашым Клубе выказваліся ўжо многія з вас. Перад усім былі гэта спробы апавяданняў ці вершаў. Усе яны сведчаць аб тым, што арганізацыя Клуба на нашых старонках з'яўляецца як найбольш апраўданай.

Аднак мы не пазбеглі і пэўных недахопаў. Менавіта Клуб наш завузіўся амаль выключна да спроб літаратурнай творчасці. А ўсё ж такі гэта Клуб, у якім неабходна шырэйшая дыскусія ці крытыка, вашы выказванні на тэму штодзённага жыцця. Меркавалі таксама, што некаторыя матэрыялы (напр. «Хто вінаваты» У. Грыгарука, «Ніва» за 25.IX. т.г.) выклічуць «лавіну» пісем. Кожны з вас мае той ці іншы пункт погляду і можа па-свойму ацаніць, хто сапраўды вінаваты. Ахвотна будзем друкаваць.

Крыху нас непакоіць, што вы падпісваецеся псеўданімамі. Саромецца таго, што вы пішаце, абсалютна не трэба. **Кожны чытач ведае, што вы не пісьменнікі і што гэты Клуб іменна вам** — ліцэістам пакліканы.

Ліцэісты з Міхалова і педліцэя ў Бельску.

Вельмі заахвочваем да нашага Клуба. Напэўна ёсць і ў вас аб чым пісаць.

Да ўдзелу ў працах Клуба запрашаем усіх ліцэістаў з тэхнікумаў і прафесіянальных школ, якія ведаюць беларускую мову.

Падавайце свае прапановы адносна Клуба. Пішыце, як вы хацелі б яго бачыць.

Чакаем новых пісем

**Рэдакцыя**

## Кветка-красуня

Было іх можа
восем, дзевяць...
(я не памятаю)
Раслі ўсе над рэчкаю бурлівай,
Што цераз луг зялёны прабягала.
Адна ў адну:
Прыгожыя,
Чырвоныя,
Стройныя
Кветкі.
Выццам дзяўчаты
У радочку стаялі
І ў неба ўглядаліся
Галубымі вачамі.
Іх сонца паліла.
Раса абмывала
І кожная кветка
Прыгажэйшай ставала.
Доўга стаяў я над імі
Ў задуме:
«Прыгожыя.
Чырвоныя.
А ці найпрыгажэйшай
З іх часамі няма?»
Думкі «прабіла» мне кветка адна,
Што ў радочку трэцяя расла.
Вецер падзьмуў
Нізка схілілася,
Расой пакрапіла
І на месца вярнулася
**Яна.**
Задумаў я гэтую кветку сарваць
І дома паставіць пры шыбе акна.
Калі я нагнуўся па кветку сваю
Над вухам пачулася жужжанне чмяля.
І доўга ён лётаў,
Круціўся пры ёй,
Быццам кветкі гэтай
Пакінуць не мог.
А потым?
Потым прыходзіў я часта
Адведаць знаёмку маю...
Аднойчы
Кветка схілілася,
Пажоўкла.
І больш я не ўбачыў жывою яе.
А чмель пракляты
па мёртвай таптаў
І ў ёй яшчэ хіба
Салодкага нектару шукаў.

**Раман Куневіч**

Агульнаадукацыйны ліцэй у Гайнаўцы.



Ніна Ігнацюк з IV класа Бельскага педліцэя з'яўляецца актыўным членам аграбіялагічнага кружка пры школе. У гэтым годзе асноўнай працай членаў гуртка было вырошчванне памідораў. Намаганні аказаліся вельмі плённымі. Зараз школа рассылае насенне гэтых жа памідораў ва ўсе куткі краіны.

На здымку: Ніна Ігнацюк збірае плёны сваёй працы, памідоры дэ Барао.

## Не забудзем

Наталля канала. Над яе ложкам вісела запаленая лямпа. У яе скупым святле відаць было ўсю радню. Была тут сястра Аня, з мужам і дзяцьмі. Хвароба яе — рак. У хаце панавала цішыня. Наталля гаварыла.

— Прышла вайна. Помню разрываючыеся бомбы ў нашым мястэчку. Тады, ад бомбы, загінуў наш бацька. Мы доўга шукалі яго цела, але не знайшлі. Засталося нас трое: маці хварэўшая туберкулёзам, ты, Анечка, і я. Мне было 19 год. Каб пракарміць сям'ю, я вымушана была ісці працаваць у тартак. Праца была цяжкая, а ежа — некалькі разоў у дзень суп з лебяды. Потым мяне вывезлі ў Германію. Думала, што ўжо ніколі не пабачуся з роднымі.

Яна аддыхнула крыху і пачала зноў гаварыць.

— Везлі нас у таварных вагонах праз тры дні. На станцыі немцы пачалі нас распранаць. Кожную дзяўчыну даследвалі, ці моцная, і заглядалі ў зубы. Я папала ў фальварак... Тут пазнаёмілася з Робертам, палякам. Роберт запрапанаваў мне ўцёк. Гэта было вельмі недарэчнае. Навокал былі немцы. Усё ж мы ўцяклі...

Тут Наталля спынілася. Яна ўглядалася ў адзін пункт столі. Яе чорныя вочы свяцілі незвычайным бляскам. Чыталася ў іх нямую роспач. Наталля павярнулася. Усе знерухамелі.

— У поўдзень немцы нас даганілі, — пачала зноў Наталля. — Убачыўшы немцаў Роберт пачаў уцякаць. Пасля некалькіх выстралаў ён упаў. Мяне пачалі біць... і потым ужо не памятаю, што было далей. Апрытомнела ў турме. Тут мяне прымушалі, каб я сказала, што маю сувязь з партызанамі. А я ж такіх сувязей і не мела. Адсюль зноў павязлі нас поездам. Пасля двух дзён адкрылі дзверы вагона і я ўбачыла немцаў з сабакамі і калючыя драты.

— Асвенцім.

Наталля крыху пачакала і пачала гаварыць далей, але ўжо сцішаным голасам.

— Нас завялі ў «барак». Забралі нашыя рэчы, астрыглі... Тут было пекла... І тут... я ўбачыла сваю... маму. Я радавалася, што яе бачу. Але чаму тут? Мама расказала, што ты, Аня, пайшла ў партызаны, і што яе забралі як заложніка. Маці адчувала сябе слаба, была хворая. Да нас падышла немка — капо. Яна ўдарыла маму... Потым я бачыла, як везлі маму ўжо нежывую...

З нерухомых вачэй Наталлі пацяклі слёзы. Наталля расчыніла губы і прамовіла:

— Потым прышла Чырвоная Армія. Гэта было 20 год назад.

І ўжо зусім ціха прагаварыла.

— Памятайце аб гэтым, Аня! Перадай і аб сабе дзецям. Хай памятаюць...

Вочы Наталлі гаслі, трацілі свой бляск. Яна яшчэ раз расчыніла вочы і застыла...

«Піліп»

Бел. ліцэй у Бельску

## Наша пошта

**Л. Філіманюк — Бел. ліц. Бельск.** Твайго апавядання «Барбуша» не надрукуем. Закранаеш у ім вельмі цяжкую тэму, з якой сам не можаш выйсці навет у апавяданні. Вельмі цяжка зразумець, каго хочаш паказаць кепскім: дзяцей, бабку, ці яе дачку і сям'ю. Пішы далей і старайся кранаць тэмы больш блізкія табе.

**В. Анішчук — Гайнаўка кл. X «б»** — Тваё апавяданне надрукуем у наступным «Клубе». Загаловак мы крыху скарацілі на «Мая вёска».

**А. Мацкевіч — Гайнаўка** — Апавяданне «Лёнік» надрукуем у наступным нумары. Твае матэрыялы вельмі нам падабаюцца і таму заахвочваем пісаць больш.

**М. П. вучаніца бел. ліцэя з Гайнаўкі** — Апавяданне «Сустрэча» пака друкаваць не будзем. Чакаем ад цябе іншых матэрыялаў. Аднячасова просім падаць сваё сапраўднае імя і прозвішча на тое, каб афіцыяльна запісаць у наш Клуб. Ананімных твораў і пісем не друкуем.

**Р. Ляўчук і М. Іванчук з Варшавы.** — Вашыя матэрыялы пастараемся выкарыстаць пазней. Адначасова, паколькі вы ўжо з'яўляецеся студэнтамі, просім перасылаць свае творы на літаратурную старонку аб'яднання «Белавежа».

# КНІЖКА НА РОДНАЙ МОВЕ Ў РУКАХ МАСАВАГА ЧЫТАЧА

**ГАЛОЎНЫЯ АРГАНІЗАТАРЫ**

ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА Ў ПОЛЬШЧЫ.
ВАЯВОДСКАЯ І ГАРАДСКАЯ БІБЛІЯТЭКІ Ў БЕЛАСТОКУ.
РЭДАКЦЫЯ «НІВЫ».

**СААРГАНІЗАТАРЫ**

Аддзел культуры Прэзідыум Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку
Аддзел культуры Прэзідыум Гарадской рады нарадовай у Беластоку
Ваяводскае праўленне Саюза вясковай моладзі ў Беластоку
Дзяржаўнае прадпрыемства «Дом Кніжкі» ў Беластоку
Ваяводскае праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоку.

**КОНКУРСНАЯ КАМІСІЯ**
(па алфавіту)

Вера Валкавыцкая — Рэдакцыя «Нівы»
Тэрэса Гасціловіч — Аддзел культуры ПВРН у Беластоку
Вінцэнты Згет — «Дом Кніжкі» ў Беластоку
Станіслаў Какарэка — Ваяводскае праўленне ЗМВ у Беластоку
Уладзіслаў Малеўскі — Ваяводская і Гарадская бібліятэкі ў Беластоку
Вінцук Склубоўскі — Галоўнае праўленне Беларускага таварыства
Зофія Трыбульская — Ваяводскае праўленне ТПП-Р у Беластоку
Станіслава Штукоўская — Ваяводская і Гарадская бібліятэкі ў Беластоку
Уладзімір Юзвюк — Галоўнае праўленне Беларускага таварыства

**КОНКУРСНАЕ ЖУРЫ**
(па алфавіту)

Аляксандр Баршчэўскі
Вера Валкавыцкая
Лідзія Гурская
Мікола Лобач
Станіслава Штукоўская.

*ДА БІБЛІЯТЭКАРАЎ, КІРАЎНІКОЎ СВЯТЛІЦ І КЛУБАЎ, АКТЫВІСТАЎ АДДЗЕЛАЎ І ГУРТКОЎ БГКТ!*

*Усе, хто актыўна ўключыцца ў конкурс, хто арганізуе ў сябе большую колькасць чытачоў, з чыёй бібліятэкі ці вёскі будзе больш купонаў, усе гэтыя асобы будуць запрошаны на вялікую ўрачыстасць заканчэння конкурсу, якая адбудзецца з удзелам улад і з багатай праграмай у Беластоку. Усе актыўныя арганізатары конкурсу ў тэрэне атрымаюць дыпломы і кніжкі з подпісамі арганізатараў і членаў Конкурснага журы.*

## Заданні конкурсу:

ПАШЫРЭННЕ ЧЫТАЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСКАЙ КНІЖКІ.

# ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

- МНОГА ДОБРЫХ УЗНАГАРОД
- ЧЫТАЙ НІЖЭЙ
- КОНКУРС ПРАЦЯГВАЕЦЦА АД 1.І. 1967 ДА 30.Х. 1967 г.

## правілы конкурсу

**У конкурсе можа прыняць удзел кожны, хто скончыў 16 год і прачытае па-беларуску:**
**а) большы твор вершам (паэма, драма),**
**б) дзве кніжкі прозай.**
**Удзельнік конкурсу павінен выпаўніць спецыяльны конкурсны купон. Купон друкуем, і паўторым яшчэ некалькі разоў, у «Ніве». Можна яго таксама атрымаць у сваёй бібліятэцы. Удзельнік, на купоне або на асобнай картцы, павінен растлумачыць, ці выбраныя творы яму падабаліся і чаму?**
**Гатовыя купоны трэба здаць у публічную бібліятэку або прыслаць па адрасу: Рэдакцыя «Ніва», Беласток, вул. Весялоўскага 1 — да 30.10.1967 года.**
**Удзел бібліятэк, гурткоў БГКТ, святліц, клубаў, іншых арганізацый будзе заключацца ў шырокай папулярызацыі конкурсу, у дапамозе выбраць кніжкі для чытання, у збіранні купонаў і перасыланні іх у рэдакцыю «Нівы». Удзельнікам конкурсу, якія найтрапней, найлепш і найцікавей растлумачаць, чаму і што ў выбраных творах ім падабаецца, Ваяводская конкурсная камісія прызнае вартасныя ўзнагароды, уфундаваныя арганізатарамі.**
**Спіс узнагарод:**
**грамафон (адаптар), транзіставае радыё, ручныя гадзіннікі, камплекты грампласцінак, аўтаручкі, даўгапісы, прадметы штодзённага ўжывання, камплекты кніжак.**
**Падсумаванне конкурсу і ўручэнне ўзнагарод адбудзецца 5.ХІ.1967 года ў Беластоку ў час (і як складовая частка) святкавання 50 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.**
**Сакратарыят конкурсу знаходзіцца ў Ваяводскай Бібліятэцы ў Беластоку, вуліца Кілінскага.**

## КУПОН

1. Назаві аўтара і загаловак вершаванага твора ..........

2. Назаві двух аўтараў і загалоўкі кніжак прозай
а) ..........
б) ..........

3. Напішы, ці выбраныя творы табе падабаліся і чаму ..........

4. Напішы, дзе ўзяў кніжкі да чытання (публічная бібліятэка, уласная ці купіў) ..........

5. Імя і прозвішча ..........
6. Адрас ..........
7. Прафесія ..........
8. Колькі год ..........

Запоўні купон і аддай яго бібліятэкару ў публічнай бібліятэцы або прышлі ў рэдакцыю «Нівы» да 1.10.1967 года.

## Літаратура для выбару

Пад такім загалоўкам і ў будучым, у час конкурсу, будзем даваць творы беларускай літаратуры, з якіх кожны зможа выбраць сабе тры, якія для конкурсу прачытае.
Не абазначае гэта, што можна выбіраць толькі з нашых прапаноў. Што не можа кожны сам сабе шукаць загалоўкаў. Калі ласка!
Рубрыку «Што чытаць» прапануем як арыенцір. Кніжкі, намі прапанаваныя, ёсць у бібліятэках. Выбіраем найбольш даступныя і цікавыя.
Няхай жа загаворыць галерэя беларускіх пісьменнікаў і паэтаў усіх эпох і ўсіх напрамкаў!

* ✲ *

**...Дзед мой нябожчык калі ўміраў,**
**Так гаварыў мне і тату:**
**Скарбы у лёхах замчышча схаваў.**
**Хтось адзін вельмі багаты.**
**Трапіць жа можна ўноч тую на след.**
**Як з іх спадае закляцце...**

«Сон на кургане».

ЯНКА КУПАЛА
Паэмы:

**«Магіла льва»**
**«Адплата кахання»**
**«Бандароўна»**
**«Сон на кургане»**
**«На папасе»**

Драма: «Раскіданае гняздо».
Усе загалоўкі можна знайсці ў «Зборы твораў» выд. за 1954 г., тамы 5 і 6. Або з іншых выданняў.

* ✲ *

**...Лабановіч жахнуўся. Ён як бы пачуў, што нехта неадхільны, грозны і няўмольны замахнуўся над ім цяжкаю булавою і вось-вось апусціць яе на яго галаву...**

«У палескай глушы».

ЯКУБ КОЛАС
Паэмы:

**«Новая зямля»**
**«Сымон-музыка»**
**«Рыбакова хата»**
**«Суд у лесе»**
**«Адплата»**

Трылогія ў прозе:

**«У палескай глушы»**
**«У глыбі Палесся»**
**«На ростанях»**

Аповесці.

**«На прасторах жыцця»**
**«Дрыгва»**

Загалоўкі маем у «Зборы твораў» за 1952 г., тамы 4, 5, 6, 7.

* ✲ *

**...Салавей выскачыў з палацу на шырокі дзядзінец... Адтуль кінуўся ў вялізнае гумно. Здалёку чуў ён крык гайдукоў, якія пусціліся за ім удагонку!**
**— Лавіце, лавіце.**
**Забрахалі сабакі. След яго ўжо быў страчаны. Салавей урыўся ў вялізны стог сена...**

«Салавей».

ЗМІТРОК БЯДУЛЯ

**«Салавей»** — аповесць
**«У дрымучых лясах»** — аповесць
**«Палескія байкі»** — серыя мае 25 казак і можа лічыцца як адна пазіцыя ў конкурсе. Вершам.
Знойдзеце ў «Зборы твораў» за 1951 год, тамы 2, 3, 4.

* ✲ *

**...Надзя крыкнула на вуха Андрэю:**
**— Глядзі! Гэта з Бельскага павета! Невядома, як яны сябе павядуць? Сярод іх былі нашыя хлопцы...**
**Афіцэр паліцыі крыкнуў дэманстрантам, каб разышліся. Калоны ішлі...**
**— Мы ў сваіх братоў і сёстраў страляць не будзем!**
**Афіцэр анямеў! Потым раптам падбег к паліцыянтам і на ўвесь голас заўзята крыкнуў:**
**— Па стральцах-здрадніках — плі!**
**Гукнулі стрэлы. Восем чалавек стральцоў упала забітымі...**

ПІЛІП ПЕСТРАК

**«Сустрэнемся на барыкадах»** раман, выд. 1954 г.

* ✲ *

**Таццяна: — Лепш пачакай, пакуль ты не загоіш глыбокіх ран...**
**Грышка: — Здаецца, нехта ходзіць каля хаты.**

МАКСІМ ТАНК

**«Нарач»** — паэма вершам
Можна знайсці ў «Зборы твораў» за 1958 г., том І, стар. 109—171.

# Трубачыст чысцігрош

Зіма пляцецца ні так, ні сяк, але, хоць хата і з прысьбаю, нейк робіцца халаднавата. Эх, — падумала я, — годзе ганяць кажухам мурашкі за плячыма. Натаплю сцяноўку. А пакуль прагарыць — натру бульбы і спяку гарачую бабку. Вернецца Кастусь з лесу — пальчыкі абліжа. Наесца і нагрэецца. Сухія дровы пад рукою. Улажыла паперу, падпаліла. Папер фукнуў, а дровы хоць бы што, нават не заняліся. Выбегла я да паветкі, прынесла чысцюсенькай, духмянай лучыны. Аж запахла на цэлую хату. Наклала ў печ і прычыніла дзверцы. Лучына трэснула, а чорным дымам як дало мне ў вочы, то аж у галаве закружылася. Мо шыбра замала адсунула? Пабегла, адсунула цэлы шыбар. Сагнулася ракам ля печы і дую, што аж скуру на плячах цягне. А печ не хоча гарэць. Ці мне здалося? Ці хтось далікатна стукаў? Падняла галаву і слухаю. Стукае. Калі ласка! Прашу, заходзьце. У хату ўвайшоў з мяцёлкамі за плячыма, трубачыст Мурза.

— Ах, паночку, як добра, што вы ў пору прышлі...

— Так, ужо апошні раз у гэтым годзіку.

Сеў за стол, выняў квітарыюш і пачаў выпісваць квіт.

Урэшце адазваўся:

— А цяпер, калі ласка, плаціце мне шэсць злотых.

— Зараз заплачу, — сказала я, — але маю да вас адну просьбу. Распаліла я ў сцяноўцы, і не хоча гарэць.

— А што я вам на гэта параю?

— Вы ж, здаецца, ад гэтых спраў спіцыяліст. Можа дымнік сажаю занясло?

— Ну, гэта не мая справа. Звярніцеся да печніка.

Тут мяне ўзяло.

— Не ваша справа? А што ваша справа? Квіты выпісваць? За што я вам 11 месяцаў па 6 злотых плаціла? Не прачысціце, не заплачу!

— А я вас зусім не намаўляю, — кажа спакойна трубачыст. — Не хочаце мне заплаціць 6 злотых, то заплоціце на калегіі 3000.

Э, падумала я, яшчэ за 6 злотых будуць цягаць майго Кастуся па калегіях. Выняла з прыскрынка навюсенькага «каперніка» і палажыла на стол. Мурза выдаў мне рэшту, падзякаваў і пайшоў далей выпісваць квіткі. А я стала каля халоднай печы і думаю: трубачыст-чысцігрош, вось дык кааператыў — чорнымі мяцёлкамі вымятае ад людзей чыстыя грошы!

Цёта Мільвіна

# НІЎКА

### ЗНАЙШОЎ ВЫЙСЦЕ

У Хаджы Насрэдзіна былі дзве жонкі. Аднойчы абедзве прычапіліся да яго з пытаннем: «Каго ты больш кахаеш — мяне ці яе?» Бедны Хаджа быў пастаўлены ў няёмкае становішча. Ухіляючыся ад шчырага адказу, ён сказаў: «Абедзвюх».

Але яны не супакойваліся. Маладая жонка сказала: «Уяві сабе, што мы абедзве катаемся па возеры; раптам лодка перакульваецца, і мы падаем у ваду, а ты ў гэты час сядзіш на беразе. Каго ты будзеш спачатку ратаваць?»

Хаджа засмуціўся, уявіўшы сабе гэтакае няшчасце, задумаўся і спытаў у старэйшай жонкі:

— Слухай, ты ж, здаецца, крыху ўмееш плаваць?

### ПОЎНЫ ГАСПАДАР

— Я ў доме поўны гаспадар! — хваліцца Сцяпан перад сваім прыяцелем Кастусём. — Сёння, напрыклад, ледзь толькі я сказаў жонцы: «Мне патрэбна гарачая вада...»

— І яна тут жа сагрэла табе ваду?

— А як жа! Хіба я магу мыць посуд халоднай вадой!..

### ПРАКТЫЧНАЯ

— Ах дазвольце мне з'явіцца вам у сне...

— Калі ласка, вось вам мой адрас.

### ДОБРА ПРАЙШЛО

На спатканні з мужам у турме жонка ціха пытаецца ў мужа:

— Ці ўсё добра прайшло з напільнікам, які я запякла ў пірог?

— Добра. Заўтра кладуся на аперацыю.







Без слоў.





Кансіліум.

### ЧАМУ

Маленькі Пецька пытае старэйшага брата:

— Чаму жанчыны носяць туфлі на высокіх абцасах?

— Каб іх мужчыны не цалавалі ў лоб.

### КОЛЬКІ ГОД

— Проста немагчыма, — кажа Янка свайму сябру. — Мая дачка пераапранаецца на дзень тры-чатыры разы.

— Гэта што, — адказвае сябар. — Вось мая дык разоў дзесяць!

— Колькі ж ёй год?

— Сем месяцаў.

### ЛЕЎ І ЧАРАПАХА

Леў прызначыў Чарапаху начальнікам аддзела транспартных перавозак. Ужо з наступнага дня пачалася катавасія. Палавіну вадзіцеляў Чарапаха абвінавачіла ў ліхацтве, другую палавіну — у празмерным захапленні «левымі» рэйсамі. Механікі гаража былі пераключаны на рамонт чарапашынага панцыра. А машыны стаялі. Тады Леў пусціўся ў дыпламатыю: ці не згодзіцца Чарапаха звольніцца па ўласнаму жаданню? Адказ быў безапеляцыйны: «Гэта, — сказала яна, — не маё, а ваша жаданне».

Ларчык адчыняўся проста: Чарапаха неяк прагаварылася, што ёй засталося тры гады да пенсіі і яна хоча неяк дацягнуць. Яна і цягне цераз пень — калоду. Мы гатовы параіць Льву: дайце Чарапасе двух-трох добрых памочнікаў, і яна будзе цягнуць хоць дзесяць гадоў...

Я. Герцовіч

### КАРЦІНА З ПЕКЛА



— Глянь, гэта старшы наглядач з Асвенціма.

## Зумі... ясоб і апалоніка

Дарослыя часта бываюць дзяцьмі.

*

Чалавек з чалавекам заўсёды можа сустрэцца, але калі нехта нам вельмі патрэбны, тады яго надта цяжка знайсці.

*

Хто сілаю выбіваецца ўперад, той вельмі часта застанецца далёка ззаду.

*

Сярод нашых знаёмых заўсёды можам знайсці такіх, якія ахвотна замянілі б нас на грошы.

*

Скупому і ад лічэння грошай рукі трасуцца.

### ВІНАВАТЫ?

Тоўсты чалавек гаворыць худому:

— Калі паглядзець на цябе, то можна падумаць, што ў нашай краіне пануе голад.

Худы адказвае:

— А калі на цябе паглядзець, то адразу стане ясна, хто вінавзты ў тым, што я худы.

### МАГЧЫМА

— Як табе не сорамна? Такі маленькі і курыць! На месцы твайго бацькі я б...

— Што ж, гэта магчыма. Мая маці ўдава.

### АДНАДУМЦЫ

*— Карове хвост псуе фігуру, —*
*Звінеў камар, упіўшыся ў скуру.*
*А авадзень на гэта: — Смех дый годзе —*
*Зусім ёй хвост не падыходзіць.*

Павел Шыбут

# Косіць хлопец канюшыну

Сл. А. Ставера  Муз. М. М. Пятрэнкі



Ля садочку канюшына
Узрасла і расцвіла.
Нібы ўзорную хусціну
Хтосьці ў полі разаслаў.
Сумна звоняць пчолы недзе, —
Ім мядункаў нестае.
На касілцы хлопец едзе, —
Пра каханую пяе.
Не касою, а машынай
Косіць хлопец канюшыну.
Хоць дыхнуў бы ветрык свежы,
Сонца паліць, духата!
А касілка косіць - рэжа, —
Ажно глянуць любата.
Раптам хлопец заўважае:
Паміж яблынь маладых
Яго любая спяшае
З поўнай кружкаю вады.
Не знайсці спрытней дзяўчыны!
Косіць хлопец канюшыну.
Ад вады занылі зубы,
Не вада, а проста лёд.
Пахнуць кветкі, пахнуць губы,
Ах, як смачна пахне мёд.
Дома маці запытала:
— Дзе ты з кружкаю была?
— У садочку, — адказала, —
Я маліну паліла...
Трэба ж ёй знайсці прычыну...
Косіць хлопец канюшыну...



### Для снобаў

Фунт стэрлінгаў трэба заплаціць за двухмінутнае купанне ў ванне з чыстага золата. А каму такое задорага, можа за два шылінгі агледзець ванну і нават дакрануцца да яе. Гаспадар фешэнебельнай гасцініцы каля Токіо, дзе пастаўлена залатая ванна, заявіў карэспандэнтам: «Я хацеў зрабіць што-небудзь такое, чаго ні ў кога больш няма».

«Морнінг стар»

### Знайшлі выйсце

Кіраўнікі каталіцкай царквы далі згоду на дэманстрацыю мод у касцёлах. У Турыне (Італіі) чароўныя маладыя манашкі не толькі дэманструюць купальныя касцюмы для наступнага сезона, але і заводзяць дыскусіі з гледачамі на такія тэмы, як сэнс жыцця, вера ў бога, каханне, роля жанчыны ў сям'і і г.д. Гэта прыцягвае ў царкву шмат моладзі. Зараз група манашак з Турына робіць гастрольную паездку па Заходняй Еўропе. Кардынал Кёніг, які гутарыў з удзельнікамі турнэ, ухваліў іх дзейнасць. Мяркуецца адкрыць пастаянныя каталіцкія дэманстрацыйныя залы мод.

«Фолькcштыме»

### ДЗЯЎЧАТЫ НАПРАКАТ

У Мюнхенскім квартале Швабінг, вядомым славутымі ўвесялільнымі дамамі, «палепшылася» абслугоўванне кліентаў. Цяпер кожны багаты наведвальнік, які прыходзіць у рэстаран або на танцпляцоўку без дамы, можа па свайму густу заказаць сабе партнёрку для розных паслуг. Дзяўчына на тры танцы каштуе адну марку, прыемная субяседніца за сталом — пяць марак і г.д. па дакладным прэйскуранце.

«Морген»




Дзяцей мы дзелім на дзве катэгорыі: нявыхаваныя і нашы.